

# Дзвінскі ўзгорак

*Кроч на свой родны,
дзвінскі ўзгорак,
каб глядзець у будучую сінь*

ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ВІЦЕБСКАГА РАЁНА, №2 (36)
СТУДЗЕНЬ 2016 ГОДА

КАЛОНКА РЭДАКТАРА

## МНОГОДЕТНАЯ СЕМЬЯ НЕ ТЕРЯЕТ НАДЕЖДЫ

**Жительница агрогородка Новка Валентина Вальтер после пяти лет пребывания в списках граждан, нуждающихся в улучшении жилищных условий, лишилась права на получение льготного кредитования как многодетная мать.**

В нашей стране многодетные семьи имеют право на льготы при строительстве или приобретении жилья. Однако в действительности из-за всевозможных обстоятельств воспользоваться этой привилегией получается не всегда.

В мае прошлого года старший сын Валентины Вальтер достиг восемнадцатилетнего возраста, и поэтому по закону она утратила право на льготное кредитование. Если бы в то время женщина стояла в очереди на постройку квартиры, то льготы были бы сохранены до 23-летнего возраста сына, то есть продлены на пять лет.

С точки зрения формального права исключение из списков будто бы произошло на законных основаниях. В этом убеждают и районные чиновники. Заранее, правда, Валентину Валентиновну об этом никто не предупредил. Более того, ее имя не было вычеркнуто из списков на кредитование, которые были переданы в банк.

Как рассказывает гражданка, в ноябре 2009 года Новкинской сельский исполнительный комитет предлагал ей принять участие в строительстве жилого помещения в 40-квартирном жилом доме. Однако в списки дольщиков с правом на льготное кредитование при постройке жилья она так и не попала.

С тех пор многоквартирные дома в Новке больше не строились, поэтому в 2011 году госпоже Валентине предложили построить квартиру в другом населенном пункте района. Таким образом она попала в списки застройщиков соседнего сельского совета – Октябрьского. Семья надеялась построить трехкомнатную квартиру, но внезапно остановилось кредитование. Стройка была заморожена. В течение пяти лет районные чиновники убеждали, что никакого строительства в ближайшей перспективе не планируется.

В результате Валентина Валентиновна начала искать другие способы решения квартирного вопроса. Со второй попытки ей удалось прописаться в Витебске. Однако время было упущено, сыну исполнилось восемнадцать, и семья потеряла все льготы. Становиться же в очередь на общих условиях при сегодняшней экономической ситуации, по мнению многодетной матери, не имело смысла.

В 2015 году возобновилось кредитование 60-квартирного жилого дома в агрогородке Октябрьский, но фамилия Валентины Вальтер исчезла из списков дольщиков. Как было разъяснено, исключение из списков произошло в связи с тем, что появились граждане, зарегистрированные на территории Октябрьского сельского исполнительного комитета, пожелавшие принять участие в строительстве. Никакого официального решения о ее исключении из списков женщине не показали.

Валентина Вальтер попыталась пожаловаться в Витебский райисполком. Но в ответ ей сообщили, что никакого нарушения с исключением ее из списков нет, а, наоборот, в эти списки ее не имели права включать «ЖСПК «Надежное жилье а.г. Октябрьский» при отсутствии соответствующего решения местных исполнительных и распорядительных органов не имеет права принимать решение, касающееся приема граждан в члены кооператива. Вы были приняты в члены кооператива решением общего собрания организацией застройщика без принятия соответствующего решения местным исполнительным и распорядительным органам и исполнения очередности постановки на учет нуждающихся в улучшении жилищных условий».

Говорит госпожа Валентина:

*– Не по моей вине было замедлено строительство, а ведь дети растут. За 5 лет мне так и не дали воспользоваться правом на постройку жилья на льготных условиях. Все это время семья жила надеждой на собственную квартиру. И поэтому сейчас очень обидно. Когда я посещала райисполком, среди всех очередников октябрьского дома я была единственной многодетной матерью. Чиновники даже обещали освободить меня от первичных затрат, необходимых для построения фундамента. Хотя я и не отказывалась от этих выплат.*

*Я же не была безынициативна. Мы даже попытались зарегистрироваться в Витебске, нашли дом, но меня не зарегистрировали. Хотя, как по мне, чиновники в этом случае действовали неправомерно. Меня обвинили в том, что я не проживаю в доме, хотя эпизодически я там находилась. Поверили местному участковому, который заявил, что в течение пяти месяцев там никто не проживал. Если бы мне удалось стать в очередь на получение жилья в городе с первого раза, я уже имела бы квартиру. Наконец, мы прописались в городе – в другом месте, но опоздали – сыну исполнилось восемнадцать.*

*Теперь вынуждены начинать все с нуля. На сегодняшний день для нас вообще нет никакой перспективы, но сдаваться не собираемся. Мы ставим перед собой задачу: любыми законными средствами восстановить свои права на улучшение жилищных условий, на достойное проживание детей и возвращение в списки очередников в качестве многодетной семьи.*

В настоящий момент семья из пяти человек проживает в старой однокомнатной квартире. Видно, что даже в этих неудобных условиях, когда и родители, и дети ютятся в одной комнате, делается все возможное для создания уютного и комфортного проживания. Понемногу что-то переделывается, хотя хозяйка и жалуется: «Чтобы выполнить все нужные ремонтные работы, надо куда-то уехать, но, к сожалению, некуда».

**Редактор**

ГРАМАДЗКІЯ ІНІЦЫЯТЫВЫ

## ПАРТЫЙНЫЯ АКТЫВІСТЫ ЎШАНАВАЛІ ПАХАВАНЬНЕ

**Месца пахаваньня савецкіх вайскоўцаў часоў Другой сусьветнай вайны сябрам партыі КХП БНФ Я. Дзяржаўцаву і П. Сарапеню паказала Секачова Людміла, жыхарка вёскі Казлы.**

Ва ўшанаваньне памяці пахаваных напрыканцы мінулага году партыйныя актывісты ўсталявалі драўляны крыж.

Зямля Віцебскага раёну ў мінулым стагодзьдзі была багата палітая чалавечаю крывёю. За часамі сталінскіх рэпрэсіяў, як мяркуюць дасьледчыкі, энкавэдзісты забілі каля трыццаці тысячаў вязьняў Віцебскай турмы. Месцы іхных пахаваньняў дасюль засакрэчаныя. Але нават знойдзеныя грамадзкімі актывістамі брацкія магілы, у якіх, на іх думку, пахаваныя рэпрэсаваныя, сёньняшнія ўлады ўшаноўваць пакуль не зьбіраюцца.

Затое ўлады нібыта ўшаноўваюць подзьвіг савецкага ваяра. Але чаго ў гэтым ушанаваньні насамрэч больш – ідэалягічнага цынізму ці шчырага чалавечага пачуцьця – няхай чытач вырашае сам.

Трапіць на могілкі наўпрост палявой дарогай не атрымалася, таму мы ехалі праз Міхалі, Пеступіцу, Варашылы, за якімі і збочылі на разьбітую, зь вялікімі калюжынамі, грунтовую дарогу, што далей пераходзіць у палявую, і, урэшце, лучыць Варашылы ды Казлы. Праехаўшы па гэтым шляху кілямэтры тры з паловай, праз поле пайшлі ў бок старых могілак, недалёка ад якіх некалі і месьцілася яшчэ адна вёска Варашылы. Падчас вайны тут праходзіла лінія фронту, і на працягу некалькіх месяцаў ішлі жорсткія, зь вялікай колькасьцю ахвяраў баі. Забітых сябрoў вайскоўцы пахавалі на ўскрайку зьнішчанай у вайну вёскі. Паставілі драўляныя абэліскі, напісалі прозьвішчы пахаваных...

Кажа жыхарка вёскі Міхалі Вольга Ігнацьеўна Дарожкіна:

– У сорак чацьвёртым годзе мы вярнуліся з эвакуацыі. Ніводнага дому ў вёсцы не засталося, таму жылі ў салдацкіх бункерах. Мэтрах у пяцістах ад бункераў у бок знішчанай вайной вёскі Варашылы на пагорку былі вайсковыя могілкі: шэсьць радоў

*(працяг на стар. 2)*

НАШ ГАНДАЛЬ

## АМАЛЬ КОЖНЫ МАГАЗІН МАЕ САПСАВАНЫЯ ПРАДУКТЫ

**У 2015 годзе санітарная служба праверыла ў Віцебскім раёне і Віцебску 627 аб'ектаў харчовага гандлю, грамадскага харчавання, харчовай прамысловасці. У выніку парушэння выявілі на 596 аб'ектах - гэта 95% правераных аб'ектаў.**

Маніторынг быў праведзены на 1302 гандлёвых кропках, уключаючы рынкі, прыдарожны сэрвіс, адзначаюць спецыялісты санітарнай службы.

Да адміністрацыйнай адказнасці прыцягнулі 133 юрыдычных асобы, 517 службовых асоб, сума штрафаў склала больш за 1,4 мільярда рублёў, паведаміла загадчыца аддзялення занальнага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі Ганна Мехава.

Прадпісаннямі галоўнага дзяржаўнага санітарнага ўрача Віцебска і Віцебскага раёна на 150 аб'ектах прыпынялі працу - для ліквідацыі парушэнняў. На 311 прадпрыемствах канфіскавалі амаль 5 тон прадуктаў і харчовай сыравіны.

Часцей за ўсё, паводле слоў спецыяліста цэнтра гігіены і эпідэміялогіі, гандлёвыя работнікі парушаюць тэмпературныя рэжымы і ўмовы захоўвання прадуктаў, адступаюць ад правілаў санітарнага ўтрымання памяшканняў, абсталявання, інвентара і тары. Не выкаранена і практыка рэалізацыі прадуктаў са скончаным тэрмінам прыдатнасці, без маркіровачных цэтлікаў і дакументаў, якія сведчаць аб якасці і бяспецы.

**К.Адамаў**

*Чытайце сайт Віцебскага раёна:*
**http://vicebskreg.by**

ЗАРОБКІ

*(пачатак на стар. 1)*

па дзесяць магіл у кожным. Роўненька так, нібыта пад лінеечку. На кожнай магілцы – драўляная тумбачка. Зьверху – зорачкі на ўсіх.

Хавалі ўзімку, таму целы закапалі неглыбока. Пасьля вясны магілы праселі. Смурод стаяў невыносны. Брыгадзір даў загад насіць на магілы зямлю. Насілі ўсе – і дарослыя, і дзеці. Насілі недзе з тыдзень. Смурод зьнік. Увесну 1945 году людзі пасадзілі там па тры таполькі на кожны шэраг магілаў. Могілкі абгарадзілі жардзінамі.

У 1946-47 гадох улетку разам з бухгальтарам Уладзімерам Баравіковым перапісвала ўсе прозьвішчы з драўляных тумбаў у агульны сшытак. У кожнай магіле было недзе па пятнаццаць-сямнаццаць чалавек, а было шэсьцьдзясят магіл. Былі, праўда, тры іншыя магілы: у адной пахаваныя капітан і маёр, а ў дзьвюх іншых – дзяўчаткі, па дзьве таксама. У дзяўчат нават фотаздымкі былі, яны – разьведчыцы. Ім нават невялічкі верш быў прысьвечаны. Салдаты кляліся адпомсьціць ворагу за іхную сьмерць. Ну, няхай будзем лічыць па восем-дзесяць салдацікаў на магілку – і то атрымоўваецца сама менш пяцьсот чалавек.

На Дзяды ці Тройцу, ідучы памінаць сваякоў, вяскоўцы заходзілі і на вайсковыя могілкі, пакідалі куцьцю, печыва... Таполькі хутка вырасьлі, і ўвосень, пасьля лістападу, людзі прыбіралі лісьце. Прыбяруць акуратненька, а потым спаляць. Чысьценька так, чысьценька.

І вось неяк, было гэта недзе ўжо перад самай перабудовай, прыбралі мы зь Секачовай Людмілай магілкі памерлых сваякоў, вяртаемся назад. І раптам у нас шок: «А што гэта такое!?» Усе гэтыя вялізныя таполі бульдозэр паклаў вяршынямі ў цэнтар. І на кожным выбаратні – на каранёх зь дзясятак чарапоў вісіць. Парэштки чалавечыя вакол параскіданыя. Помніку няма. На той час гэтая зямля ўжо пад Заронава адышла. Мы адразу адтуль уцяклі. Пазьней сустрэлі брыгадзіра, Вольгу Сташкевіч, пытаемся: «А што гэта вы нарабілі з могілкамі?» – Тая адказвае: «Нам загадалі перапахаваць, мы і перапахавалі»...

І ў Шарках хацелі пахаваньне зьнішчыць. Распавядала нам Мішчыха Дарожкіна: «Прыяжджае бульдозэр пасьля таго, як у Варашылах панарабіў бяды, туды. Я вілкі, якімі гной выкідала, у рукі –і да іх: Толькі крані – закалю!» Гэтак і ўратавала, праперла іх адтуль. Яна тыя могілкі сама даглядала, прыбірала, кветкі садзіла. Пазьней прыехалі людзі з ваенкамату, паставілі помнік і зрабілі ланцуговую агароджу. Яна казала, што з Варашылаў у Шаркі прывезьлі чырвоную урну зь зямлёй. Вось так салдацікаў і перапахавалі.

Неяк прыяжджае чалавек, каторы тут ваяваў, на вайсковыя могілкі – мы тады якраз паміналі. Прывёз вянок і цюльпаны, каб пасадзіць. Падыходзіць да нас і пытаецца: «Дзе мне паставіць вянок? Што вы нарабілі з кладамі вайсковымі?» – «А хіба мы нарабілі? Заронава. Заронаўскі сельскі савет». «Добра, – кажа, – я гэтага так не пакіну. Вы ведаеце, зь якой цяжкасьцю мы іх хавалі? Гэта ж нашыя баявыя таварышы".

Вакол гэтага пагорку пачалі араць зямлю. І што вы сабе думаеце: ідзём мы на могілкі, а трактар, як пройдзе, дык белыя салдацкія чарапы ляжаць, бы грыбы. Калі я з братам хадзіла на могілкі, дзе наш бацька ляжыць ды ўсе дзяды, дык ён заставаўся на гадзіну і зьбіраў косткі і чарапы. Не, ён іх не хаваў, а кідаў у кусты, якія вырасьлі на месцы былога пахаваньня. Казаў: «Я не магу прайсьці міма, не магу прайсьці! Столькі чарапоў! А зубкі – усе роўненькія!». – Там людзі былі ўсе маладыя. Гэта ж былі апошнія наборы: 25-26 гады.

А гадоў дзесяць таму прыяжджаў да мяне пошукавы батальён, правяраў інфармацыю наконт гэтага пахаваньня, якую ім мясцовая краязнаўца перадала. Прыехалі яны ўвечары – а дождж, як зь вядра. Я ім кажу: «Дзеці, што вы там можаце з сапёрнымі рыдлёвачкамі знайсьці? Тых, якіх па полі разьнесьлі плугамі, за столькі гадоў трактары патрушчылі ўшчэнт... У полі вы нічога ня знойдзеце». – Кажуць: «Бабуля, то ня Ваша справа». Нарабілі сваімі рыдлёўкамі ямак у полі, але нічога не адшукалі. А я ім – ды кажу: «Калі хочаце знайсьці нешта, капайце вось тут, у кустох. Там якраз бярозавы пень застаўся, а пад ім ляжыць капітан. Мінёр. Ён ужо пасьля вайны падарваўся. Хочаце яго адкапаць – карчуйце пень. Хаця б капітана знойдзеце. У яго прыкмета адна: яго прывезьлі без галавы». Але як ім з тым пнём бяз тэхнікі было ўправіцца? Так яны і зьехалі, засьведчыўшы, што нічога не знайшлі.

Ведаеце, нядаўна памёр віцебскі чыноўнік. Хавалі яго ў нас, у Баршчоўцы. А сын якраз вёз мяне з гораду. Пытаемся: «Што здарылася? Зь якой нагоды да кладоў дарогу праклалі?» Аказваецца, на пахаваньне мусілі прыехаць Косінец гэты з Андрэйчанкам, дык вось дарогу і зрабілі. Вось такая ў нас пашана выходзіць: адзін чыноўнік куды больш варты, ніж пяцьсот абаронцаў Радзімы, якія за яе вызваленьне дачасна галовы свае паклалі.

Пасьля гэткага шчырага расповеду дадаваць нешта ад сябе ня мае сэнсу. Як той казаў: no comment.

**vitebskspring.org**

НАРОДНЫЯ ТРАДЫЦЫІ

# НА ВАДОХРЫШЧА Ў КАЗАЧНАЕ ЛУЖАСНА

**Вадохрышча – апошняе свята Каляднага цыклу. Душа цягнецца за горад, да прыродных прыгажосця, да мілых сэрцу сельскіх краявідаў.**

Для сустрэчы свята ў прыгарадным Лужасна спрыяе усё.

Утульнае, амаль вясковае асяроддзе, скаваная ільдом Дзвіна і царква – нават дзве! Цудам захаваныя аўтэнтычныя храмы Лужасна здаўна намоленыя нашымі продкамі, таму маюць моц прыцягваць вернікаў для паломніцтва ў вялікія святы. Асабліва шматлюдна тут на Вадохрышча. Для многіх віцяблян сталася шматгадовай традыцыяй ехаць на гэтае свята ў казачна-зімовае Лужасна.

У пасёлку нас вітае прыгожая Узнясенская царква. Яна радуе вока і лашчыць вуха гукамі звона тубыльцаў аж з 1908 года. Але мала хто ведае, што маленькая мураваная пабудова над Дзвіной, каля крыніцы ў гонар прападобнага Серафіма Сароўскага, гэта колішняя Крыжаўзвіжанская царква – самая старажытная з ваколіц Віцебска!

Цяжка дакладна высветліць час і абставіны яе пабудовы. Але наш знакаміты краязнаўца МіколаПіваварпаведамляешмат цікавых звестак і неверагодныя паданні: У 1815 годзе мясцовы пан Ёсіф Енько збудаваў тут невялікую мураваную уніяцкую царкву ля пагоста (ля могілак). Мясцовыя людзі называлі гэты храм па-простаму "мураванка". Існуе паданне, што пабудаванай мураванка была як абяцанне Богу і людзям, дадзенае панам у 1812 годзе: калі ў вайну французы не разбураць маёнтак, то будзе ў Лужасна новая мураваная царква. Пан сваё абяцанне выканаў.

Алесёння, на свята Хрышчэння, цікава паслухаць іншае паданне, звязанае з гэтай цэркаўкай. Паведамляюць прыблізна наступнае. Некалі даўно задумаў мясцовы пан у Лужасна, каля берага ракі, пабудаваць вельмі вялікую царкву. Загадаў пан каб жыхары наваколля сабралі ўсе камяні з палёў ды лясоў і прывезлі на будоўлю падмурка храма. Падтрымалі людзі святую справу ды навезлі агромністую гару камення.

Аднак бяда - даведаўся чорт пра будоўлю бажніцы. Вырашыў ён перашкодзіць людзям і перакідаць усе сабраныя камяні ў Дзвіну. Усю ноч працаваў чорт - некаторыя камяні аж на другі бераг пераляталі... Другім разам навезлі людзі валуноў - аднак ноччу чорт зноў перакідаў усё ў раку. Так атрымлівалася тройчы, да самай зімы – ужо моцы няма каменне збіраць, ды ў наваколлі іх зусім не засталося.

Перамагчы чорта вызваўся стары варажбіт, які ў цяжкасцях людзям дапамагаў. Ведаў варажбіт што нельга зімой чорту знаходзіцца ў вадзе ад Вадохрышча ажно да самага Купалля. Ад свянцонай вады чэрці тысячамі гінуць, бо ва ўсіх мястэчках ля ракі на ваду святое слова ды крыжы бацюшкі апускаюць. Там, дзе святая вада на "Іардані" напатькае чорта, там ён і корчыцца ў страшэнным болю пакуль не згіне.

Загадаў варажбіт каб перад самым святам Вадохрышча прывезлі людзі на будоўлю царквы найвялікшы камень. Так і зрабілі. Знайшлі самы вялікі камень і талакой прыцягнулі да берага Дзвіны. Ў ноч на свята ўзяў варажбіт кошык, а ў ім пеўня, ды пайшоў пільнаваць камень. Схаваўся і чорта чакае.

Толькі схілілася сонца за снежныя елкі і заблішчалі на небе першыя зоркі як з'явіўся ля агромістага валуна чорт. Дужа цяжкім для яго здаўся гэты вялікі камень – ніяк не скінуць у раку. Ўзваліў чорт камень на свае плечы і намагаючыся панёс па ільду Дзвіны - як мага далей ад будоўлі царквы. Варажбіт тым часам ўсё бачыць і чакае. Толькі чорт дайшоў да сярэдзіны ракі – як раптам разбудзіць варажбіт пеўня ў кошыку. Дужа баяцца чэрці спеву гэтай ганарыстай птушкі. Певень прапяяў а чорт ад страху выпусціў камень – і аб лёд яго! Не вытрымаў лёд вагі валуна і праваліўся, а з ім у свянцоную ваду ракі трапіў і чорт – там яму і пакутлівы канец здаўся.

…З надыходам вясны будоўля царквы ўзнавілася. Але нічога не заставалася мясцоваму пану і жыхарам Лужасна як задаволіцца астаткамі камення і пабудаваць невялікі падмурак для зусім невялікай цэркаўкі. Тая мураванка прастаяла каля ста гадоў, пакуль людзі зноў не назбіралі шмат камення для падмурка новага вялікага і прыгожага храма.

Вынікам жа шкоднай працы чорта сталася вялікая колькасць камення ў Дзвіне каля Лужасна. Захаваўся і вялізарны камень – ён ляжыць ў Дзвіне каля супрацьлеглай па рацэ вёсачкі Бібіраўка. Камень добра вядомы мясцовым жыхарам пад назвай Вялікі бібіраўскі камень (ці Чортаў камень). Яго даўжыня каля трох метраў. Паглядзець на камень спрытней будзе з пляжу ў Бібіраўке. Камень хоць і вялікі, але высоўваецца з ракі толькі ў спякотнае лета, калі вады ў Дзвіне становіцца мала.

Са святам Вадохрышча!

**news.vitebsk.cc**

НАШЫ ТРАДЫЦЫІ

# ПА ХАТАХ ХОДЗЯЦЬ, КАЗУ ВОДЗЯЦЬ

**У Заполлі і Бенцяях у гэтыя чароўныя дні можна сустрэць казу з мядзведзем. Старадаўні абрад святкавання Каляды адраджаюць вучні Запольскай дзіцячага садка-сярэдняй школы.**

Настаўніца Людміла Фёдарава, кіраўнік мясцовага краязнаўчага гуртка распавяла, што традыцыі святкавання перадаюцца з пакалення ў пакаленне. Таму на вёсцы мала каго здзіўляе, калі калядоўшчыкі па хатах ходзяць, казу водзяць.

Дзятва ахвотна прымае ўдзел у тэатралізаваным шоу, а інакш і не назавеш тое, што адбываецца ў гаспадарскай хаце і на падворку. З нецярпеннем чакалі Калядаў Кацярына, Уладзімір, Таццяна і Аліна Фёдаравы, Канстанцін Дзмітрачэнка, Таццяна Ларыёнава ды Ілля Сімпорахаў. Менавіта ім даручылі адказную місію — прынесці свята ў хаты аднавяскоўцаў.

Падчас імпрэзы, у якой усхвалялі тых, хто шчодра прымаў госцейкаў, ды абсыпалі шматлікімі пажаданнямі : «Усяго даволі, бяды — ніколі. Каб мірна, весела жылося, каб хацелася і маглося! Збожжа поўныя клеці, павагу ў свеце!». Без работы не засталася і «цыганка». Яна варажыла жадаючым. Месцічы з інтарэсам уключаліся ў прапанаваную гульню, а яна была сапраўды цікавая і насычаная абрадавымі дзеяннямі.

Пра шчодрасць гаспадароў, да якіх завітала вясёлая кампанія, сведчылі шматлікія прысмакі. Надышлі Калядкі, у хатах — бліны ды аладкі. Вяскоўцы і сёння імкнуцца як мага лепей адарыць госцейкаў, бо лічыцца, што чым больш шчодрыя дары дадуць ім, тым больш багаты будзе год.

Пад кіраўніцтвам Людмілы Фёдаравай і яе калегі Наталлі Вязьмёнавай галоўныя дзеючыя асобы калядных свят не абмінулі ўвагай калектыў Запольскай участковай бальніцы. Ва ўстанове чакалі калядоўшчыкаў не толькі медработнікі, але і тыя, хто знаходзіцца тут на сацыяльных ложках.

…Святкаванні з вячоркамі скончацца.Упамяцідзятвыяны застануцца яркай, маляўнічай старонкай у справе па духоўным адраджэнні абрадаў і традыцый сваіх продкаў, беларускай нацыянальнай культуры.

Кругаварот жыцця бясконцы: ужо зараз запольскія школьнікі чакаюць з нецярпеннем і салодкім пачуццём набліжэння свята наступных Калядаў.

**Таццяна Дзіканава**
**"Жыццё Прыдзвіння"**

НАША ЖЫЦЦЁ

# БЕЛАРУСЬ ВОЗВРАЩАЕТСЯ В «ЛИХИЕ 90-Е»

**По прикидкам, средняя зарплата белорусов скатилась до 330 долларов. Пиком был показатель около 629 долларов в июле 2014 года. Экономист Ярослав Романчук прогнозирует, что к концу нынешнего года цифра может опуститься до 200 долларов.**

Это означает, что по уровню благосостояния белорусы откатываются де-факто к рубежу 90-х. Ведь за годы правления Александра Лукашенко и сам доллар потерял в весе, масштаб цен совсем иной. Копеечная плата за транспорт и коммуналку вскоре будет казаться легендой седых времен.

**Ни жирных щей, ни прав**

При этом рушится вся идеология достижений «власти для народа». Лукашенко дал по 100 долларов заработка к выборам 2001 года, по 250 — к выборам-2006, по 500 — к выборам-2010. Другой внятной идеологии, чего-то духовного выстроенный первым президентом режим предложить не смог, хотя и вскормил тучу идеологов на окладе. К слову, несмотря на кризис, казенные деньги на тот же БРСМ, поддержку государственных СМИ продолжают выделяться.

Большинство же белорусов согласилось в свое время на примитивный социальный контракт: мы не рыпаемся, не качаем права, а власть большим черпаком раздает всем наваристый суп.

Лукашенко вскоре после прихода к власти показательно подавил забастовку метрополитеновцев, затем огосударствил профсоюзы, загнал в маргинальную нишу политическую оппозицию. Бороться за права — экономические, политические, гражданские — стало очень рискованно и особо некому. Да и зачем, казалось многим. Как в старом мультике: «Таити, Таити… Нас и здесь неплохо кормят».

Теперь будут кормить все хуже. При этом в плане политическом гайки методично закручены настолько, что уже ни дохнуть ни охнуть. Мелкие предприниматели, прижатые требованиями властей, стонут, однако открыто бунтовать, как в прежние времена, не отваживаются. Работяги тоже предпочитают получать крохи, но не оказаться на улице.

Лукашенко продолжает держать страну в железном кулаке, но абсолютно не знает, как ее выводить из кризиса (потому, наверное, с такой охотой берется руководить уборкой снега). Вся президентская жизнь была положена на создание и шлифовку «белорусской модели развития», животворная сила которой, как теперь наглядно видно, бралась в основном из щедрых российских субсидий.

Западных ценностей белорусский руководитель не понимает, но в то же время прекрасно осознает: строить экономику и политику по модели стран ЕС или США означало бы своими руками похоронить режим личной власти.

**Облом с «братской интеграцией»**

Между тем над муками поляков, покупавших в период шоковой терапии по одному яйцу вместо стандартного у нас десятка, белорусский обыватель посмеивался. Мол, наш Батька нашел неиссякаемый источник благ на востоке. Схема называется «нефть и газ в обмен на поцелуи».

Да, в апреле будет 20 лет, как молодой тогда белорусский президент подписал с Борисом Ельциным договор об образовании Сообщества Беларуси и России. Далее «братская интеграция» покатилась снежным комом: годом позже создали Союз, в 1999-м — Союзное государство.

Сегодня Беларусь уже по уши в долгах и правительство снова не знает, как рассчитаться. Между тем военная интеграция с восточной соседкой зашла далеко и стала для Лукашенко в каком-то смысле обременительной. Вдобавок к объектам под Ганцевичами и Вилейкой Москва хочет разместить в Бобруйске полноценную авиабазу. Это уже не просто антенны, а наступательное оружие. И эта перспектива грозит испортить Лукашенко так тяжело давшийся процесс нормализации отношений с Западом.

Да, а газовые долги потом все равно отрастали, как головы гидры, и в конце концов белорусскую трубопроводную систему пришлось продать «Газпрому». Можно было утешаться: зато газ нам дают дешевый. Но сегодня газ подешевел для всех. Причем ближайшему союзнику Москва упорно не хочет давать выпрашиваемую скидку хотя бы процентов десять.

Далее, основной смысл евразийской интеграции, на которую Лукашенко дал согласие Владимиру Путину уже скрепя сердце (эйфория ельцинских времен прошла, как с белых яблонь дым), сводился для белорусской стороны к энергетическому гранту. Но сегодня вожделенный профит из-за удешевления нефти и газа скукожился. Как и российский рынок для белорусских товаров. И на что нам тогда этот ЕАЭС?

Возникает также вопрос, хватит ли у Москвы денег финансировать далее строительство Белорусской АЭС. Отдельный вопрос, где Беларусь наскребет денег, чтобы расплатиться с 10-миллиардным кредитом на этот циклопический проект. Наконец, обостряется вопрос его целесообразности: если, как прогнозируют многие эксперты, настанет эра дешевых энергоносителей, то вообще стоила ли овчинка выделки?

**Курс в никуда продолжится**

В ту же реку не войдешь дважды. Сегодня белорусы не просто откатываются в 90-е. Сейчас будет хуже, чем тогда. Ведь уже нет надежды на «братскую интеграцию», спасительное восточное Эльдорадо. При этом страшно выходить на Площадь, украинские события отвратили от мыслей о революционной ломке привычного уклада. А перспективы трансформации сверху более чем призрачны.

На официальном приеме по случаю старого Нового года Лукашенко вдруг вспомнил евангельскую притчу про апостола Петра, который стал тонуть, когда засомневался. «Вот так и в нашей жизни. Избрали свой курс, надо ему следовать, не поддаваясь никаким сомнениям и страхам. Тогда нашему кораблю не будет страшен никакой шторм», — резюмировал официальный лидер.

Что это, отголосок внутренних сомнений? В любом случае он, как видим, безжалостно их душит. Неимоверно тяжело признаться самому себе, что 20 лет вел страну в никуда.

**Александр Класковский**
**БЕЛАПАН**

ДВАЙНЫ СТАНДАРТ

# КАК ДУРЯТ ИП

**В государственном торговом центре товары тоже без сертификатов. В Барановичах развивается история, которая вновь ставит вопрос о двойных стандартах в нашей стране.**

25 января состоялась встреча представителей Барановичского горисполкома и индивидуальных предпринимателей (ИП) по поводу отмены Указа №222. Как рассказал «Салідарнасці» предприниматель Николай Черноус, начальник Инспекции Министерства по налогам и сборам г.Барановичи Василий Суховерхий на вопрос из зала сообщил, что конфискованный товар в реализацию поступает только после подтверждения его качества, в ином случае – утилизируется.

Заявление чиновника выглядело логичным: если нет соответствующих документов – какая разница, кто продает товар? На совещании 14 января сам Александр Лукашенко отметил: «Надо работать в равных условиях с соответствующими документами. Им (ИП – прим.) надо понимать, что сертификация продукции, на которую мы пошли, – это первый шаг. Есть товар – все сопроводительные документы должны быть. Мы должны прозрачно торговать, и хватит вокруг этого какие-то козни устраивать».

Однако местные предприниматели рассудили: доверяй, но проверяй. Во вторник, 26 января, несколько активистов отправились в КУТП «Торговый дом «Радуга» и попросили предъявить документы подтверждающие качество выс-тавленных на продажу конфискованных товаров.

– Ни на одну группу товаров документа, подтверждающего качество товара, ни продавцы, ни администрация нам как покупателям предоставить не смогли. Они сказали, что на конфискованный товар у них нет документов, а все вопросы по качеству – к исполкому, – рассказал «Салідарнасці» правовой инспектор профсоюза РЭП Александр Войтешик.

– Наша «Радуга» – это как ЦУМ в Минске, главный магазин. Мы были в отделах обуви, верхней одежды, ремней. Нигде документов на товары не было, нам говорили: это товар горисполкома. Так что вы нам лапшу на уши вешаете? Конфисковали товар у наших же барановичских предпринимателей, а теперь продаете? Получается, если кофточку ИП продает – то будет зуд, а если государство – то нет? – рассказал «Салідарнасці» предприниматель Николай Черноус.

Активисты зафиксировали факт отсутствия соответствующих документов в книге замечаний и предложений.

– Будем ждать ответа, хотим разобраться: это некомпетентность начальника ИМНС, злоупотребление властью исполкомами или нарушения правил реализации магазинами. Эти вопросы волнуют не только ИП, но и обычных граждан, так как цены в магазине гораздо выше, чем на рынке, а дешевый товар сейчас на рынке ИП продавать не могут из-за Указа №222. При этом достойной работы власть предоставить им не может, предприятия закрываются, – отметил правовой инспектор профсоюза РЭП.

Тем временем барановичские рынки пустуют.

**Руслан Горбачев**
**gazetaby.com**




САЦЫЯЛЬНАЯ ПАЛІТЫКА

# КАК СИЛОВИКИ «ЗАБРАЛИ» У ДЕТЕЙ 2 ТРИЛЛИОНА

**О простом рецепте, который почему-то не замечают белорусские чиновники, «Салідарнасці» рассказал экономист, руководитель проекта «Кошт урада» Владимир Ковалкин, комментируя ситуацию с повышением пособия по уходу за ребенком на... один доллар.**

В то время как белорусы возмущаются издевательским решением правительства поднять пособие по уходу за ребенком на один доллар, независимые экономисты советуют, как возможно сделать социальную поддержку более существенной. Даже в условиях кризиса.

— В бюджете есть огромные резервы для экономии, для поиска средств, которые можно направить на социальную поддержку, — отметил собеседник «Салідарнасці». – Речь идет о содержании всех силовых ведомств, включая МВД, КГБ и так далее.

По словам эксперта, в бюджете 2016 года на помощь семьям, воспитывающем детей заложено лишь 2 триллиона рублей.

— Причем, изначально еще в прошлом году в эту статью заложили значительно большую сумму – как раз после того, когда президент сделал заявление и повысил подоходный налог на 1%. Затем прошло полгода, и было решено сократить эту статью на 30%, так как денег в бюджете не хватило, — пояснил Владимир Ковалкин.

В то же время на органы внутренних дел в 2016 году планируется потратить 6,7 триллионов рублей.

— То есть, более чем в три раза больше, чем на всю помощь семьям, воспитывающем детей!

А если же сравнить всю статью «социальная политика», куда входят пенсии, социальная защита, помощь семьям, молодежная политика и другие блага нашего социального государства просуммировать, то это получается 16 с лишним триллионов рублей. В то же время на «судебную власть, правоохранительную деятельность и обеспечение безопасности» планируется потратить 17,5 триллионов рублей.

Особенно символичным, по мнению Владимира Ковалкина, выглядит тот факт, что в 2016 году, несмотря на сложное экономическое положение страны, расходы на содержание силовиков по сравнению с прошлым годом увеличились на более чем 2 триллиона рублей!

— То есть, им обеспечили прибавку ровно на ту сумму, которую планируют направить на помощь всем белорусским семьям, воспитывающим детей. И это несмотря на то, что наше государство считается социальным, — замечает собеседник «Салідарнасці».

**Павел Рос**
**gazetaby.com**

РОССИЯ НА МЕЛИ

# МЕДОВЫЕ ГОДЫ БЕЛОРУССКИХ ВЛАСТЕЙ ПОЗАДИ

**Москва дала понять, что новых кредитов от нее иностранные просители в нынешнем году вряд ли дождутся. Не до жиру. Для белорусских властей это плохая новость.**

«Я думаю, что мы объективно находимся в ситуации, когда вынуждены будем взять паузу с точки зрения принятия обязательств по новым кредитам», — заявил 18 января в Москве заместитель министра финансов России Сергей Сторчак. И пояснил: «Бюджет напряженный, более чем напряженный».

Тем временем вот-вот затрещит по швам белорусский бюджет. Были надежды получить заем в два миллиарда долларов от Евразийского фонда стабилизации и развития. Формально он не российский, а общий, интеграционный, но на 80% с гаком сформирован именно из российских ресурсов. Москва же теперь устами Сторчака прозрачно намекнула: денег самим мало.

**Москва экономит на спичках**

Вообще российское правительство очевидно стало экономить на спичках. Даже для ближайшего союзника. Год начался, а поднаторевшему в энергетических ристалищах белорусскому вице-премьеру Владимиру Семашко так и не удалось пока выбить из россиян скидку на газ. «Пока не договорились, новой даты встречи нет», — скупо прокомментировал на днях ход этих переговоров замминистра энергетики РФ Анатолий Яновский.

Между тем, если вспомнить, Беларусь и пошла-то в евразийскую интеграцию прежде всего в расчете на энергетический профит. А тут — облом. С одной стороны, энергоресурсы для всех дешевеют, с другой — Москва все скупее на льготы союзнику. Кроме всего прочего, из-за дешевизны нефти превращаются в пшик так тяжело отвоеванные Минском экспортные пошлины на нефтепродукты (предполагавшиеся доходы от которых уже заложены в бюджет 2016 года).

Если посмотреть шире, то резкое проседание российской экономики, истощение финансовых ресурсов России подкашивает весь проект Евразийского экономического союза. Мало того что Кремль стал скупее на субсидии и кредиты, так еще и облюбованный белорусскими производителями рынок восточной соседки сжимается.

В новых условиях у Минска «ослабла мотивация строго следовать договоренностям в рамках евразийской интеграции», отметил в комментарии для Naviny.by экспертаналитического центра «Стратегия» Валерий Карбалевич.

«Логично искать другие точки опоры. Но продукция нереформированной белорусской экономики вряд ли найдет новые рынки сбыта», — отмечает аналитик.

В свою очередь, чтобы процесс реформ, преобразований в Беларуси пошел, не хватает, в частности, и такого фактора, как внутреннее давление общества, считает собеседник Naviny.by. «Мы видим сегодня, что даже предприниматели не готовы бороться за свои права», — говорит Карбалевич.

**Страну режим подморозил**

Действительно, хотя мелкие торговцы заявляют, что требованием иметь документы на товар поставлены на грань уничтожения, протестная активность сводится в основном к составлению челобитных чиновникам.

На акцию в поддержку ИП, инициированную лидером Объединенной гражданской партии Анатолием Лебедько в Минске 18 января, собралась, включая самих партийных активистов, лишь горстка людей.

Нынешний настрой ипэшников далеко не так боевит, как это было восемь лет назад, когда спецназ с трудом сдерживал их марши в центре Минска. Тому есть целый ряд причин, но в частности белорусское общество психологически придавили украинские события.

И по большому счету в плане внутриполитической стабильности Александр Лукашенко чувствует себя пока уверенно, не боится волны протестов. Как показалось, даже с некоторым злорадством он заявил на днях по поводу ипэшников, что «с 1 января закончились их медовые годы…»

Похоже, власть будет аккуратно дожимать эту категорию предпринимателей, в частности потому, что они создают конкуренцию государственному легпрому, тратят валюту на — как презрительно выразился президент — импортные шмотки.

Другое дело, что медовые годы кончились для всех — и для работяг на заводах с забитыми складами, и для бюджетников, которым уже банально не хватает на нормальную еду… Наконец, и для самой власти кончились медовые годы популизма за счет обильных российских субсидий.

**Жертвовать западным вектором Лукашенко не захочет**

Итак, надежды белорусского руководства как-то пересидеть кризис, ничего не меняя, становятся все более иллюзорными.

Означает ли это, что в условиях сокращения российской поддержки Минск усилит игру на западном направлении, пойдет на форсированное развитие отношений с ЕС и США?

«Играть на западном направлении означает для белорусских властей получить деньги на Западе, ничего другого от Запада Минску не нужно», — заявил в комментарии для Naviny.by минский аналитик-международник Андрей Федоров.

При этом, убежден он, на серьезные уступки в плане внутренней политики Лукашенко не пойдет. А вот навстречу МВФ (правительство рассчитывает начать новую программу с этой организацией уже в январе-феврале) Минск может пойти дальше, чем это было во время предыдущей совместной программы, — по крайней мере станет, возможно, меньше хитрить ради получения кредита, прогнозирует аналитик.

Чем рискует Лукашенко, если усилит геополитическое маневрирование?

Оно всегда раздражало Москву, но сейчас, полагает Федоров, у российского руководства могут появиться и внутриполитические мотивы для агрессивных действий: «В условиях неизбежного снижения рейтинга Путин может сделать ставку на присоединение Беларуси — вначале мирными средствами, а если не получится, то, не исключено, и с применением военной силы».

Карбалевичу такой сценарий представляется «скорее фантастическим». Аннексия Беларуси, по мнению политолога, еще сильнее обострила бы отношения Москвы как с Западом, так и с постсоветскими государствами, грозила бы усилением санкций. К тому же взять на довольствие еще и 9,5 млн белорусов — «слишком тяжелая ноша для бюджета России», подчеркнул собеседник Naviny.by.

Даст ли Москва, по крайней мере, евразийский кредит?

«Шансы на российские кредиты зависят от политической договоренности. Во времена Ельцина, когда экономическое положение России было еще хуже, Минск, тем не менее, получал большие субсидии», — отмечает Карбалевич.

Возможно, вопрос будет решаться на встрече Владимира Путина с белорусским президентом в Минске. Белорусский президент многозначительно заметил, что «высшие должностные лица России давно уже не были в Минске».

С одной стороны, на своем поле играть легче. С другой — все равно никак не обойти больной вопрос о размещении российской авиабазы в Бобруйске.

Если уступить здесь Путину, то шансы получить деньги от Москвы увеличиваются. Но при этом сразу ухудшаются перспективы отношений с Европой и США. А западным вектором Лукашенко жертвовать не хочет: российский «Титаник» дал уже большую течь.

**Александр Класковский**

НАФТА І РАСІЯ

# НАВОШТА ПАТРЭБЕН ТАКІ «СТАРЭЙШЫ БРАТ»?

**Апошнія падзеі ў сьвеце, асабліва землятрус на нафтавым рынку, ствараюць новую сытуацыю для ўсіх краін. Прычым, хутчэй за ўсё, падзеньне коштаў нафты — гэта доўгатэрміновы трэнд. Вось міністар эканамічнага разьвіцьця РФ Аляксей Улюкаеў заявіў, што нізкія цэны на нафту могуць трымацца дзесяцігодзьдзямі. Пры гэтым, паводле ягоных слоў, кошт барэля нафты бліжэйшым часам можа ўпасьці да 15–20 даляраў.**

Усё гэта ў значнай ступені разбурае ранейшую геапалітычную ролю Расеі як «энэргетычнай імпэрыі», мяняе яе ролю і вагу на постсавецкай прасторы. Больш за тое, бяру на сябе сьмеласьць сьцьвярджаць, што падзеньне ўсясьветных цэнаў на нафту разбурае ўсю парадыгму беларуска-расейскай інтэграцыі.

Вынесем за дужкі сацыякультурныя чыньнікі саюзу Беларусі і Расеі («блізкія народы», «агульная гісторыя», «у адных акопах гнілі») і паглядзім на ўзаемаадносіны хаўрусьнікаў з рацыянальнага гледзішча. Ідэя беларуска-расейскай інтэграцыі яшчэ з 1990-х гадоў грунтавалася найперш на тым, што бяздонны расейскі рынак — галоўны спажывец прадукцыі беларускіх прадпрыемстваў. Доўгі час менавіта так і было, што дазволіла выжыць прамысловасьці Беларусі.

Але цяпер сытуацыя кардынальна зьмянілася. Пасьля падзеньня ўсясьветных цэнаў на энэргарэсурсы расейскі рынак скурчыўся. Гэтаму спадарожнічала вялізная дэвальвацыя расейскага рубля, уступленьне РФ ва Ўсясьветную гандлёвую арганізацыю, што прывяло да зьяўленьня там больш таннай і якаснай прадукцыі замежных вытворцаў. У выніку за студзень-лістапад 2015 году агульны экспарт Беларусі скараціўся на 27%, а экспарт у Расею — на 33%. Не выпадкова ўвесь год беларускія ўлады ліхаманкава шукалі новыя рынкі збыту (праўда, без асаблівага посьпеху).

Другі важны чыньнік інтэграцыі Беларусі і Расеі — танныя расейскія энэргарэсурсы. Бязь іх было б немагчымым доўгае існаваньне беларускай сацыяльнай мадэлі. Яшчэ 2–3 гады таму экспэрты ацэньвалі расейскі энэргетычны грант у 15% валавога ўнутранага прадукту Беларусі. Усе спрэчкі і канфлікты паміж Менскам і Масквою круціліся вакол аб'ёму гэтага гранту. Падчас стварэньня Мытнага саюзу, Эўразійскага эканамічнага саюзу дыскусіі паміж кіраўніцтвам Беларусі і Расеі ішлі адносна пытаньня, калі РФ будзе прадаваць партнэрам нафту і газ па ўнутрырасейскіх цэнах. А яшчэ былі доўгія спрэчкі на тэму, у чыім бюджэце застанецца нафтавае мыта. Узгадаем, што Беларусь прадала «Газпрому» свой «Белтрансгаз» менавіта дзеля таго, каб мець танны газ.

Але цяпер, калі ўсясьветныя нафтавыя цэны ўпалі, усе гэтыя спрэчкі ў значнай ступені страцілі сэнс. Энэргетычны грант Расеі мінімізаваўся. Цяпер для Беларусі нават сяброўства ў Эўразійскім эканамічным саюзе страціла былую прывабнасьць.

Трэці эканамічны чыньнік інтэграцыі Беларусі і Расеі — расейскія крэдыты. Дык вось, намесьнік міністра фінансаў Расеі Сяргей Старчак заявіў у панядзелак: «На сёньняшні дзень я лічу, што шанцаў ва ўраду прыняць рашэньне па прадстаўленьні новых крэдытаў вельмі мала. Бюджэт напружаны, больш чым напружаны. Я думаю, што мы аб'ектыўна знаходзімся ў сытуацыі, калі вымушаныя будзем узяць паўзу з пункту гледжаньня прыняцьця абавязаньняў па новых крэдытах». Зразумела, нельга выключаць, што з палітычных матываў Уладзімір Пуцін можа даць крэдыт апошняму саюзьніку, нягледзячы на ўсе эканамічныя цяжкасьці Расеі. Аднак відавочна, што магчымасьці Масквы ў гэтым пляне хутка скарачаюцца.

Такім чынам, Расея, якая доўгі час, амаль чвэрць стагодзьдзя пасьля распаду СССР, была галоўнай крыніцай эканамічнага дабрабыту Беларусі, гарантам існаваньня беларускай сацыяльнай мадэлі, стала цяпер галоўнай крыніцай праблемаў для беларусаў, чыньнікам крызісу для краіны. Прычым расейскі крызіс стаў прычынай пагрозы ня толькі Беларусі, але і ўсім краінам СНД. Не выпадкова постсавецкая прастора сёньня — самы дэпрэсіўны рэгіён у сьвеце.

Што яшчэ застаецца? Расейскі ваенны парасон. Але, па-першае, ён патрэбен пры ўмове, калі ёсьць нейкая вонкавая ваенная пагроза. Здаецца, імавернасьць такой пагрозы невялікая. А па-другое, расейска-ўкраінскі канфлікт, далучэньне Крыму — усё гэта паказала, што цесныя абдымкі «старэйшага брата» небясьпечныя для суседзяў. Бо Расея выкарыстоўвае свае вайсковыя аб'екты на тэрыторыі іншых краін у асноўным на ўласную карысьць.

У выніку, калі «старэйшы брат» ня можа больш актыўна падтрымліваць Беларусь, то навошта ён патрэбен? Цынічна, але ў міжнароднай палітыцы па-іншаму не бывае. У гэтым жорсткім сьвеце краіны дзейнічаюць на падставе прагматычных інтарэсаў, а не кіруюцца ўдзячнасьцю за колішнія падарункі. Беларусі трэба шукаць новыя кропкі апоры. А дзеля гэтага варта перагледзець усю канцэпцыю замежнай палітыкі. Трэба ўсё пачынаць з чыстага аркуша.

**Валер Карбалевіч**
**"Радыё Свабода"**

**Заснавальнік і рэдактар:** Смолікаў Канстанцін Эдуардавіч

**Адрас рэдакцыі:** г. Віцебск, вул. 1-я Сененская д.5, Тэл. +375-29-218-98-38, e-mail: kas_vit@tut.by
Газета выдаецца з лютага 2014 г.

**Падпісана да друку** 30.01.2016 у 16.40
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры падтрымцы аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.